*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2019, № 3(37). Сакавік

# Таямніцы слонімскай ратушы


Чытайце на ст. 5.

*Здымак Сяргея Ярша*

# Тэатральная плошча ў Слоніме

Сёлета Слонім атрымаў рэдкі шанец вырашыць некалькі праблем, якія засталіся нам яшчэ з XX стагоддзя. І ўсё дзякуючы рэспубліканскаму святу — Дню беларускага пісьменства і друку. Справа з помнікам Льву Сапегу ўжо вырашана. Другая справа не менш важная, яна непасрэдна звязана з першай. Помнік мусіць быць усталяваны на Тэатральнай плошчы, якая на сённяшні дзень мае назву плошчы Леніна.* Такое перайменаванне ў цяперашняй Беларусі справа выключная, але магчымая. У Мінску плошча Леніна калісьці стала плошчай Незалежнасці.

У райвыканкам перадалі подпісы з просьбай разгледзець пытанне перайменавання на тапанімічнай камісіі. На сайце "раёнкі" прайшло галасаванне наконт назвы плошчы. Пасля гэтага сумненняў у пазіцыі мясцовых чыноўнікаў ужо няма.

Стала зразумела, што надзея цяпер толькі на Мінск, дзе могуць прыняць прынцыповае рашэнне аб перайменаванні і даць загад па вертыкалі. Усё ж пастаўлена задача адзначыць свята крэатыўна. А з гэтым нярэдка ўзнікаюць праблемы. Тэатральная плошча з Сапегам — гэта і ёсць крэатыўны ход. Невялікі, але такі важны для слонімцаў. Выйгрышны ў плане турыстычнай прывабнасці нашага горада.

У гэтым перайменаванні няма ніякай палітыкі ці ідэалогіі, няма ніякага жадання кагосьці пакрыўдзіць. Тут ёсць выключна мэтазгоднасць.

●Сяргей Ёрш

**Вяртанне гістарычных назваў плошчы наўрад ці знойдзе падтрымку. "Плошча перад дамініканскім касцёлам", "Тандлёвая (Рынкавая) плошча", "Парадная плошча" — яны не адпавядаюць яе сённяшняму зместу. Таму і аддаецца перавага новай назве, тым больш там знаходзіцца тэатр. А тэатр у Слоніме мае славутую гісторыю. Гэта тое, чым мы можам ганарыцца.*

# У Жыровічах усталююць помнік архімандрыту Серафіму



Прынятае рашэнне аб усталяванні ў Жыровічах помніка архімандрыту Серафіму (Раману Шахмуцю, 1901 — 1946). Ён быў насельнікам Жыровіцкага манастыра ў міжваенны час. Падчас Другой сусветнай вайны аднаўляў рэлігійнае жыццё на ўсходзе Беларусі, адкрываў праваслаўныя цэрквы, зачыненыя бальшавікамі. За гэта яго і арыштавалі савецкія ўлады ў 1944 годзе. Серафім Жыровіцкі загінуў у сталінскім канцлагеры. Рэабілітавалі яго ў 1994-м. Руская Праваслаўная Царква кананізавала архімандрыта Серафіма ў 2000 годзе.

Слонімскі райвыканкам аб'явіў конкурс эскізных праектаў помніка. Яго плануюць усталяваць да святкавання 500-годдзя заснавання Свята-Успенскага манастыра і 550-годдзя з'яўлення цудатворнай жыровіцкай іконы Божай Маці, якое адбудзецца ў наступным годзе.

Месца ўсталявання бронзавага помніка ўжо вызначана — справа ад уваходу ў Жыровіцкі манастыр.

ХРОНІКА

# Рабочую мадэль помніка Сапегу зробяць у пачатку красавіка


grodnonews.by

14 сакавіка ў Мінску прайшло пасяджэнне нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства ў Слоніме. Ім кіраваў віцэ-прэм'ер Ігар Петрышэнка. Ён нагадаў, што асноўная ідэя гэтага свята — "прапаганда нацыянальных культурных традыцый, дэманстрацыя клопату дзяржавы пра захаванне духоўнай спадчыны краіны, пра духоўнае развіццё грамадства ў кантэксце падтрымкі кнігі і чытання, нацыянальнай літаратуры і кнігадруку". Петрышэнка патрабуе, каб яно праводзілася крэатыўна і стала "значнай падзеяй у культурным жыцці краіны". Між іншым, віцэ-прэм'ер прапанаваў пераўтварыць канцэртную праграму адкрыцця свята ў "сапраўдны спектакль".

Як піша "Гродзенская праўда", пра навінкі на 26-м па ліку штогадовым святе распавёў намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама Віктар Лісковіч: "Пакажам, напрыклад, фотагісторыю правядзення Дзён беларускага пісьменства на гродзенскай зямлі… З'явяцца ў Дня пісьменства ў Слоніме свае талісман і дэвіз (на іх вызначэнне аб'яўлены конкурс — "СК"). Апошні стане стрыжнем усіх мерапрыемстваў і звяжа іх у адзінае цэлае". У планах — арганізацыя "гастранамічнага фэста" з прыгатаваннем страваў, апісаных у творах класікаў беларускай літаратуры.

Ці не галоўнай падзеяй свята стане адкрыццё ў скверы на плошчы Леніна помніка Льву Сапегу (дарэчы, грамадскія актывісты нядаўна збіралі подпісы за перайменаванне плошчы ў Тэатральную). Праект помніка быў ухвалены ў пачатку сакавіка, у першыя дні красавіка ўжо мусіць быць гатовая яго рабочая мадэль. Скульптары — наш зямляк Іван Міско, а таксама Уладзімір Піпін і Сяргей Логвін.

●ГГ

# Новыя выданні, прысвечаныя Слонімшчыне

У 2019 годзе пабачаць свет новыя выданні, прысвечаныя Слонімшчыне. Як піша "Гродзенская праўда", іх назвы — "Слонім. Падарожжа ў часе" і "Беларускі край. Слонімская зямля". Не ўдакладняецца, ці гэта будуць фотаальбомы, ці кнігі. Можна меркаваць, што іх надрукуюць да Дня беларускага пісьменства, які пройдзе ў нашым горадзе 1 верасня.

# Бібліятэка ў былой ратушы

На вуліцы Савецкай, 6 у Слоніме, насупраць помніка-танка, знаходзіцца двухпавярховы стары будынак. У ім з 1988 года размяшчаецца раённая бібліятэка. Для яе, вядома ж, гэтага будынку мала. Невялікія пакоі, вузкі калідор, кнігі са стэлажамі надаюць памяшканню яшчэ большую няўтульнасць і цеснату. Для 50-тысячнага горада такога памяшкання вельмі мала. Хочацца мець вялікую, прасторную, светлую сучасную бібліятэку з актавай залай, з камп'ютарнымі кабінетамі, з выставачнай залай і г. д. Але хто і калі такую бібліятэку пабудуе ў Слоніме? Магчыма ніхто і ніколі. Дай Божа, каб хоць гэта засталася і ў бліжэйшыя гады яе не закрылі.

Памяшканне бібліятэка атрымала тады, калі яго вызвалiў Слонімскі гарвыканкам, які тут месціўся пасля заканчэння Другой сусветнай вайны аж да канца 1980-х гадоў. Але не гэтым памяшканне каштоўнае. А тым, што яно было пабудавана ў другой палове XVIII стагоддзя. І тут знаходзілася гарадская ратуша. Сам будынак з'яўляецца архітэктурным помнікам Слоніма, ён захаваў рысы барока.

Пра слонімскую ратушу і яе гісторыю зусім не захавалася ніякіх успамінаў і матэрыялаў. Калі гэты будынак дастаўся бібліятэцы, мастакі Яўген і Алег Івановы на шкле намалявалі партрэт Якуба Коласа. Да рэспубліканскага Свята беларускага пісьменства і друку ў бібліятэцы плануецца ажыццявіць невялікі рамонт, найперш даху і вокнаў. З левага боку ад галоўнага

*Працяг на ст. 4.*







*Здымкі Сяргея Чыгрына*

# Бібліятэка ў былой ратушы

*Працяг, пачатак на ст. 3.*

ўваходу бібліятэкі на сцяне прымацавана шыльда, прысвечаная слонімскаму піянеру-герою Васі Крайняму, які загінуў падчас Другой сусветнай вайны на Слонімшчыне. Ёсць і шыльдачка, якая нагадвае, што гэта помнік архітэктуры і ахоўваецца дзяржавай.

●Сяргей Чыгрын



*У ратушы вузкія калідоры*





*Дзверы ў падвальнае памяшканне*



*Уваход у адно з падвальных памяшканняў былой ратушы, а цяпер раённай бібліятэкі*



*Здымкі Сяргея Чыгрына*

# Таямніцы слонімскай ратушы



*Вось такія дзіўныя ўваходы ў маленькія падвальныя памяшканні. Фота Сяргея Ярша*

Слоніму пашанцавала, што будынак ратушы захаваўся да нашых дзён. Яго не давялося аднаўляць. Аднак ён неаднаразова перабудоўваўся, і сляды гэтага можна пабачыць і звонку, і ўнутры будынка. А рэканструяваць яго першапачатковы выгляд ужо практычна немагчыма.

У навуковай літаратуры сустракаюцца дзве прыблізныя даты пабудовы ратушы: сярэдзіна[1] і другая палова[2] XVIII стагоддзя. У той час цэнтр горада істотна змяніў сваё аблічча. Ратуша ў Слоніме існавала і раней, верагодна з XVI стагоддзя, калі было атрыма-

*Працяг на ст.6.*



*Дзе ж уваходы ў падвалы будынка справа? Засыпаныя «культурным слоем»? Здымак са старонкі бібліятэкі ў Facebook.*

# Таямніцы слонімскай ратушы



*Працяг, пачатак на ст.5.*

нае Магдэбургскае права. Найхутчэй гэта быў драўляны будынак. Якраз на яго месцы і маглі ўзвесці ратушу з цэглы.[3]

Ратуша — гэта будынак, у якім знаходзіліся гарадскія органы самакіравання (магістрат). Яе ўзводзілі ў цэнтры горада на рыначнай плошчы. У большасці выпадкаў на ратушах была вежа. Валянціна Караткевіч і Анатоль Кулагін пісалі пра слонімскую ратушу: *"Кампазіцыя будынка адносіцца да тыпу бязвежавых, строга сіметрычных (адсутнічала традыцыйная вежа — сімвал магістрата)".*[4] Аднак вежа магла ўпрыгожваць драўляную ратушу. Але чаму яе не было на цаглянай? Усе даследчыкі пішуць, што будынак шмат разоў перабудоўваўся. А што калі яе ў XIX стагоддзі разабралі?

Ёсць дзве вельмі падобныя літаграфіі з выявай Слоніма, выкананыя ў XIX стагоддзі. На іх бачная панарама горада з боку Шчары. Храмы, будынкі. І сярод іх, магчыма, ратуша з вежай. Яе абрысы нібыта праглядаюцца сярод храмаў у цэнтры горада…

А яшчэ ёсць версія, што ратуша знаходзілася… побач з цяперашнім будынкам бібліятэкі. А цяпер на яе месцы пабудаваная крама.[5] Сапраўды, да магістрата ў Слоніме адносілася некалькі будынкаў, прылеглых да ратушы, і яны ўтваралі "карэ" ("замкнёны прамавугольны двор"). Прынята лічыць, што галоўным сярод іх быў будынак, у якім цяпер знаходзіцца бібліятэка. Праўда, слонімскі гісторык Васіль Супрун скептычна ставіўся да таго, што ратуша знаходзілася ў будынку цяперашняй бібліятэкі. Ён пісаў: *"…сучасны будынак Слонімскай цэнтральнай бібліятэкі… некаторымі гісторыкамі архітэктуры названы Слонімскай гарадской ратушай".* Супрун лічыў гэты будынак былым заезным домам, пабудаваным у часы Льва Сапегі г. зн. у канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя.[6] Аднак даследчык нічым гэтае сцверджанне не падмацаваў.

В. Караткевіч і А. Кулагін неяк няпэўна акрэслівалі колькасць паверхаў у былой ратушы: *"кампактны, прамавугольны ў плане двухпавярховы аб'ём"*[7]. Калі глядзець на будынак з боку вуліцы Васі Крайняга,



*На здымку пачатку XX стагоддзя на будынку ратушы бачым два балконы*

ствараецца ілюзія, што ў ім тры паверхі. У адным крыле былой ратушы ёсць вокны і дзверы падвалаў, а ў іншым іх не відаць. Няўжо там не было сутарэнняў? Неяк слаба ў гэта верыцца. Прыхільнікі альтэрнатыўнай гісторыі, так папулярнай цяпер у той жа Расіі, смела заявілі б, што першы паверх ратушы ў Слоніме ў сярэдзіне XIX стагоддзя быў засыпаны ў выніку *"глабальнага катаклізму планетарнага маштабу"*.

А яшчэ ж ёсць успаміны Рыгора Зайцава. У 1969 годзе ў скверы на Першамайскай вуліцы ўсталёўвалі "Помнік Вызваліцелям" — танк Т-34. На тым месцы ўтварыўся правал. *"Праход быў да недалёкага будынку бібліятэкі. Яго засыпалі",* — успамінае Зайцаў. [8] Калі ход ішоў у ратушу з боку гандлёвых радоў (яны былі на месцы цяперашняга скверу), то ўваход мусіў быць дзесьці ў тым крыле, у якім нібыта няма падвалаў.

*Жанчына стаіць на балконе будынка былой ратушы. Фота пачатку XX ст.*



Увогуле складваецца ўражанне, што гісторыкі архітэктуры ў савецкія часы проста не атрымалі магчымасці скрупулёзна даследаваць будынак былой ратушы. Там месціліся гарадскія ўлады і, відавочна, не ва ўсе памяшканні быў вольны доступ. Пішучы пра тую ж "аўстэрыю" (заезны дом) на Савецкай вуліцы, Караткевіч і Кулагін згадалі *"шырокія скляпеністыя падвалы"*.[9] Падвалы ў ратушы яны нават не згадалі, а яны мусілі быць падобнымі.



Як бачым, таямніц слонімскай ратушы існуе нямала. Інакш і быць не можа ў такім старажытным горадзе.

●Сяргей Ёрш


*[1] Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. — Мінск, 1993. С. 442.*

*[2] Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. — Мінск, 1983. С. 75.*

*[3] Помнікі Слоніма. С. 13.*

*[4] Тамсама. С. 75.*

*[5] Шумель В. Так будет ли в Слониме дом милосердия? // Газета Слонімская, 2013, № 28, 3 ліпеня.*

*[6] Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 45-46.*

*[7] Помнікі Слоніма. С. 75.*

*[8] Ад сабора ў бок цяперашняга помніка Леніну ішоў падземны ход // Слонімскі край, 2018, № 5(27). Травень. С. 5.*

*[9] Помнікі Слоніма. С. 72.*

# Шляхамі Ордаў

*Працяг, пачатак у № 2, 2019 г.*

## Род Ордаў

Род Ордаў належыць да старажытных шляхецкіх беларускіх родаў, якія пасяліліся на Піншчыне ў XV стагоддзі. Да роду Ордаў герба Астоя належыць і Напалеон Орда — беларускі мастак і патрыёт, які ўнёс вялікі ўклад у еўрапейскую культурную спадчыну. У Францыі ў сям'і прапраўнука Напалеона Орды Х'юберта Дэнармандзі захоўваюцца генеалагічныя дакументы сям'і Ордаў.

У першай палове XVI стагоддзя пінскі харужы і суддзя земскі Сямён Юхновіч Орда ажаніўся на Марыяне Макар. У 1525 годзе польская каралева Бона Сфорца пацвердзіла правы Сямёна Орды на ўладанне землямі на Піншчыне ў Лемяшэвічах, Пагосце і Сушыцку. Праваслаўны род Ордаў пасля падпісання Берасцейскай уніі ў 1596 годзе перайшоў у каталіцтва, што пацверджана пісьмовай заявай Яна Орды.

У сына Сямёна Юхновіча Орды Паўла было шэсць сыноў, адзін з якіх — Самуіл Орда. Ён быў суддзёю ў Пінску і меў сына Яна Орду — мечніка пінскага, які ажаніўся з Канстанцыяй Гедройц. Самуіл Орда — сын Яна і Канстанцыі, у шлюбе з Сафіяй Шырмай меў пяцёра сыноў, адзін з якіх — Апалінарый. Дзед Апалінарыя Орды па матчынай лініі Павел Шырма быў падстоліям пінскім, гарадскім і земскім пісарам. Разам з Мацеем Бутрымовічам яны былі пасламі на Чатырохгадовым сойме і прапанавалі ў 1792 годзе для паляпшэння паштовай сувязі на Піншчыне праклясці тракт ад Пінска да Слоніма праз Лагішын, Целяханы, Боркі. Так з'явіўся Косаўскі тракт, на шляху якога знаходзілася і вёска Дзеравянчыцы. Мацей Бутрымовіч, дзед Напалеона Орды па мацярынскай лініі, быў вядомы на Палессі як інжынер-фартыфікатар, яго лёс быў цесна звязаны з гісторыяй нашага горада Слоніма.

Тапограф і ваенны картограф Мацей Бутрымовіч займаўся меліярацыяй балот на Палессі, пабудаваў дарогу з Пінска да Слоніма, быў сябрам вялікага гетмана Міхаіла Казіміра Агінскага, а з 1767 года кіраваў яго маёнткам і склаў праект будаўніцтва будучага канала Агінскага. Бутрымовіч першым шлюбам быў жанаты на Крысціне Шырма. Іх дачка Юзэфа стала жонкай Міхаіла Орды, у сям'і якіх і нарадзіўся сын Напалеон. Міхаіл Орда таксама быў прафесійным інжынерам-фартыфікатарам, займаўся будаўніцтвам дарог і каналаў на Палессі. Магчыма тады Орды і аблюбавалі слонімскія землі.



*Капліца роду Ордаў у Бракаве. Пабудаваная ў 1852 годзе*

## Стацкі дарадца Пётр Орда

У 1796 годзе ў сям'і суддзі пагранічнага пінскага Апалінарыя Самуілавіча Орды нарадзіўся сын Пётр. Наогул, Апалінарый Орда быў тройчы жанаты і меў не менш за васьмёра дзяцей. У некралогу рымска-каталіцкага касцёла сяла Аўлочын (сёння — у Турыйскім раёне Валынскай вобласці Украіны) захаваўся запіс аб тым, што 30-гадовая Катажына Орда, дачка вяльможнага Апалінарыя і Тэклі (Ліцінскай) Ордаў памерла 23 жніўня 1833 года. На той час яе брат Пётр Апалінар'евіч Орда меў 37 год і быў жанаты з Эвелінай Мікульскай.

Пётр Орда быў стацкім дарадцам. Гэта амаль генеральскі чын, які тытулаваўся "Ваша высакароддзе". У кнізе "Памяць. Слонімскі раён" (Мінск, 2004) надрукаваны змест архіўных дакументаў, якія сведчаць пра тое, што Пётр Апалінар'евіч з'яўляўся адным з актыўных удзельнікаў патрыятычнага падполля, якое збіралася ў пляменніка яго



*Радавод Ордаў*

жонкі Эвеліны Мікульскай ў маёнтку Старыя Жыровічы. Пра гэта рапартуе ў дакладной запісцы агент Вільбішэвіч ад 7 траўня 1848 года са Слоніма: *"18 красавіка знаходзяцца на сходзе ў абшарніка Слонімскага павета Філарэнцін Мікульскага: былы пад наглядам паліцыі тамтэйшы правадыр дваранства Валовіч, павятовы суддзя Орда, памешчыкі маёнткаў: з*

# Шляхамі Ордаў

*Хмяльніцы — Чачот, з Тужэвіч — Пржэцлаўскі, з Дзявонкавічаў — граф Слізня ды павятовы скарбнік Імянінскі; але для якой мэты, мне невядома".*

У пратаколе допыту ў Віленскай асаблівай следчай камісіі ад 10 жніўня 1864 года губернскі сакратар Цэзары Казігродскі распавядае пра дэманстрацыі ў Слонімскім павеце напярэдадні паўстання і сваім знаходжанні ў паўстанцкім атрадзе. У 1862 годзе ў Слоніме пры павятовай бібліятэцы пачала аб'ядноўвацца найбольш актыўная і прагрэсіўная частка дваранства. Там ладзіліся таемныя сустрэчы, сходы, арганізоўвалася мясцовае патрыятычнае падполле, накіраванае на падрыхтоўку да паўстання. У данясенні гродзенскага губернатара Бабрынскага генерал-губернатару Мураўёву фігуруе і Пётр Орда, як удзельнік рэвалюцыйнай арганізацыі пры Слонімскай павятовай бібліятэцы.

У *"Русской старине"* за 1874-1876 гады апублікаваны "Успаміны" Восіпа Пржэцлаўскага. Іх аўтар, масон ложы "Белага Арла", высокапастаўлены чыноўнік і дваранін Слонімскага павету, пісаў: *"Калі ў 1860-я гады ўсе заходнія губерні, кіраваныя М. М. Мураўёвым, былі пад следствам з нагоды бунту, амаль паўсюду рабілісяператрусы, у вёсцы, у доме памешчыка Слонімскага павета Пятра Орды быў знойдзены маленькі Белы Арол на аблезлай блакітнай стужцы. Ён быў прыняты за эмблему паўстання. Орда быў тады ў Пецярбургу; яго адтуль патрабавалі. Яму вельмі цяжка было даказаць, што гэта быў знак масонскай ложы, да якой ён некалі належыў..."*.

Масоны дзейнічалі паміж сабою па правілах узаемнай дапамогі, яны пераносілі гэты абавязак у вобласць і грамадскіх, і службовых, і дзелавых адносін. Членства ў масонскай польскай ложы "Белага Арла" дазваляе прасачыць акружэнне Пятра Орды. Кіраўніком ложы быў сенатар граф Адам Ржэвускі, польскі генерал, будучы герой Крымскай вайны. У яго ў маёнтку Вярхоўня ў 1862-1866 гадах працаваў Напалеон Орда, быў настаўнікам музыкі сына. Сястра Адама Ржэвускага, Эвеліна Ганская, была ў шлюбе з французскім пісьменнікам Анарэ дэ Бальзакам. У 1866 годзе Напалеона Орду арыштавалі па падазрэнню ва ўдзеле ў паўстанні 1863-га, з далейшым вынясеннем прысуду аб высылцы ў аддаленыя губерні Расіі. Магчыма, усе гэтыя людзі, а таксама пасол Францыі і жонка Напалеона Орды, Ірэн Бугле, адыгралі важную ролю ў заступніцтве і вызваленні мастака.

*Працяг у наступным нумары*

●Святлана Брайчук,
г. Слонім

ХРОНІКА

# У Дзятлаве будзе помнік Канстанціну Астрожскаму



Атрыманыя ўсе патрэбныя ўзгадненні на ўсталяванне ў Дзятлаве помніка заснавальніку горада Канстанціну Астрожскаму (1460 — 1530), вялікаму гетману літоўскаму, выдатнаму палкаводцу. Будзе аб'яўлены конкурс эскізных праектаў. Усталяванне запланаванае на 2020 год. Фінансавацца праект будзе з пазабюджэтных сродкаў.

Сёлета ў Лідзе ўсталюююць помнік вялікаму князю ВКЛ Гедыміну. Гэтую падзею прымяркуюць да Дня горада, які будзе адзначацца ў верасні.

# Зноў пра ўцёкі слонімцаў з СССР


ЗП.

СОВЕРШЕННО СЕКРЕТНО.

171

СЕКРЕТАРЮ ЦК КП/б/ БЕЛОРУССИИ

товарищу ПОНОМАРЕНКО. / Лично /


В целях развертывания агентурной работы среди белорусских националистов, выявления их антисоветской деятельности, а также внедрения нашей агентуры в зарубежные организации белнацдемов, НКВД БССР и УПВ НКВД БССР были завербованы в качестве закордонных агентов "МОЛОДЕЦ", "МАЕВСКИЙ" и "ЯСТРЕБОВ", которые переброшены через границу и направлены в гор. Варшаву с заданием:


Одновременно "МАЕВСКИЙ" сообщил, что в первых числах ноября м-ца с.г. из технических сотрудников "Комитета" уволена по неизвестным причинам работавшая в приемной Варшавского "Комитета" девушка- КИШКА Янина, уроженка гор. Слоним, в феврале месяце с/г бе-


НАРОДНЫЙ КОМИССАР ВНУТРЕННИХ ДЕЛ БЕЛОРУССКОЙ С С Р-

/Л.ЦАНАВА/

14 декабря 1940 года.

№ 1/8590

“СК” распавядаў гісторыі некалькіх сем’яў жыхароў Слоніма, якія зімой 1940 года рашыліся на ўцёкі з СССР у Польшчу, акупаваную нямецкімі войскамі.* Такім чынам яны ратаваліся ад магчымага арышту савецкімі карнымі органамі і дэпартацыі ў Расію ці Казахстан. Уцёкі былі шчаслівыя для Браўнаў, Равінскіх, Урліхаў і яшчэ некалькіх сем’яў, прозвішчы якіх нам невядомыя. Нядаўна ўдалося даведацца пра ўцёкі ў лютым 1940 года за мяжу слонімцаў Кішкаў.

14 снежня 1940 года народны камісар унутраных спраў БССР Лаўрэнцій Цанава даслаў сакратару ЦК КП/б/ Беларусі зусім сакрэтнае паведамленне. У ім былі дадзеныя пра агентурную працу сярод беларускіх нацыяналістаў у замежжы, найперш на тэрыторыі Польшчы. Савецкім спецслужбам было вядома, што яны падтрымліваюць сувязь са сваімі аднадумцамі па гэты бок мяжы, у Заходняй Беларусі, у тым ліку і ў Слоніме (былі перахопленыя кур’еры). У шэрагу выпадкаў нацыяналісты дзейнічалі не самастойна, а па заданні нямецкай разведкі. Народны камісарыят унутраных спраў ініцыяваў стварэнне агентурнай справы “Свастыка”, задачай якой якраз і было выяўленне нелегальных каналаў сувязі праз мяжу. Былі завербаваныя трое чалавек, якія атрымалі псеўданімы *“Молодец”*, *“Маевский”*, *“Ястребов”* і былі накіраваны ў Варшаву пад выглядам “уцекачоў ад бальшавікоў”.

Дакладна невядома, ці гэтыя людзі пераходзілі мяжу самастойна, ці іх укаранілі ў групу сапраўдных уцекачоў. Але ўсё атрымалася — у 1940-м савецкія агенты легалізаваліся ў Польшчы ды неўзабаве пачалі перадаваць разведдадзеныя. Найбольш каштоўную інфармацыю пра дзейнасць у Варшаве “Беларускага камітэта самапомачы” здабываў *“Маевский”*.

У згаданым дакуменце Цанавы ўтрымліваецца наступная інфармацыя: *“Адначасова “Маевский” паведаміў, што ў першых чыслах лістапада м*[еся]*ца г*[этага] *г*[ода] *з тэхнічных супрацоўнікаў “Камітэта” звольнена з невядомых прычын дзяўчына, якая працавала ў прыёмнай Варшаўскага “Камітэта” — Кішка Яніна, ураджэнка гор*[ада] *Слонім, у лютым месяцы г*[этага] *г*[ода] *ўцякла за мяжу разам з бацькамі”.***

Пра лёс сям’і Яніны Кішка ніякай інфармацыі знайсці пакуль не ўдалося.

●Генадзь Гурскі

**Гурскі Г. Уцёкі групы слонімцаў з СССР зімой 1940 года // Слонімскі край, 2018, № 2(24). Люты. С. 3; Гурскі Г. Зімой 1940 года са Слоніма за мяжу ўцякла сям’я Браўнаў // Слонімскі край, 2018, № 6(28). Чэрвень. С. 12.*
***Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.*

ЖЫВАЯ ГІСТОРЫЯ

# Азярніцкая “Хава нагіла”*

З габрэйскай энцыклапеды: *АЗЯРНІЦА, вёска ў Слонімскім раёне Гродзенскай вобласці (Рэспубліка Беларусь). У XIX — пачатку XX ст. — мястэчка Слонімскага павету Гродзенскай губерні. У 1920-1930-я гады — у складзе Польшчы, у 1939-1991 гадах — у складзе БССР. У 1897 годзе у Азярніцы жылі 183 габрэі (24%). У 1913-м габрэям належылі абедзьве бакалейныя і адзіная жалезаскабяная лаўкі ў Азярніцы. Летам 1941 года Азярніцу занялі часткі вермахту. У лістападзе 1941 года там былі забітыя некалькі габрэяў.*



*”Хава нагіла” (“Давайце радавацца”) — папулярная габрэйская песня, напісаная ў пачатку XX стагоддзя на старажытную мелодыю*

Святы Божа! Як было добра сёння ў мястэчку. Здавалася, што цёплае майскае сонца наўмысна награвала кветкі бэзу, намагаючыся там, далёка ў вышыні, уласна адчуць іх цудоўны тонкі водар. Ад гэтага па ўсёй Азярніцы расплываўся прыемны, духмяны пах.

Бацька знарок паслаў Сару да крамы ў першую палову нядзельнага дня, пакуль большая частка насельніцтва мястэчка была на набажэнстве ў мясцовай царкве. Маладой габрэйцы амаль споўнілася 16 і ён, як мог намагаўся старанна ахоўваць дзяўчыну ад увагі мясцовых маладых хлопцаў.

Хатка Сары і яе бацькі стаяла бліз мастка праз невялікі раўчук акурат ля месца, дзе скончвалася брукоўка. Будынак быў старэнькі і настолькі нізкі, што яго вокны выходзілі проста на абочыну дарогі, якая ішла праз ўсё мястэчка.

Дзяўчына ледзьве паспела зайсці ў дзверы хаты, як з царквы паваліў мясцовы люд. Вернікі з Азярніцы і бліжэйшых вёсак пасля набажэнства абавязкова наведвалі тутэйшыя крамы, каб папоўніць запасы запалак, крупаў і солі. Дзецям бацькі абавязкова куплялі рознакаляровых пеўнікаў на палачцы або здобу, пасля чаго дзіцячая гаманлівая грамада, падзяліўшыся на суполкі, разыходзілася ў розныя бакі ў пошуках забаваў і прыгодаў.

Так адна з такіх суполак, перайшоўшы масток, праз раўчук на хвіліну прыпынілася каля маленькай прыземістай хаткі. Ад кампаніі аддзялілася некалькі хлапчукоў, якія хуценька падбеглі да нізенькага будынка, вокны якога глядзелі



акурат на дарогу. Пастаўшы спінамі да хаціны, трошкі прыгнуўшыся і прыспусціўшы порткі, яны агалілі свае “пятыя кропкі”, ледзь не кранаючыся імі ваконнага шкла…

Маісея Абрамавіча паважалі не толькі мясцовыя габрэі. Асабліваю пашанаю ён карыстаўся і сярод хрысціянскага насельніцтва мястэчка, паколькі лічыўся лепшым шаўцом — хутка, якасна і танна рамантаваў разнастайны абутак.

Вось і ў гэтую майскую нядзелю шаноўны Маісей Абрамавіч, як заўжды, седзячы ля акенца займаўся сваёю ўлюблёнай справай — рамантаваннем абутку. Зірнуўшы ў вакно і ўбачыўшы выхадку дзетвары, сталы шавец, кінуўшы шыла, куляй выскачыў з хаты. Хлапчукам гэта і было патрэбна. З вясёлым рогатам, яны хто-куды рассыпаліся ў розныя бакі.

І што вы думаеце?! Падбягаючы да збянтэжаных

мінакоў і ўзбуджана махаючы рукамі, выкрыкваў Маісей Абрамавіч. *“Жёпу мне показывают! Кажется, ткнул бы шилом, так ведь шибу побью!”*, — крычаў раз’юшаны габрэй.

Зразумеўшы, у чым справа, хаваючы сціплую ўсмешку, мінакі крочылі далей, ад чаго Маісей Абрамавіч яшчэ больш узбуджаўся. Ён падбягаў да наступнага мінака і, дзелячыся сваёй непрыемнасцю, ледзь не падскокваючы, уставаў на дыбачкі, пасля чаго, моцна жэстыкулюючы, згінаўся амаль у пояс…

Такія выхадкі мясцовая дзетвара практыкавала амаль кожную нядзелю. А на мінулым тыдні, у суботу, некалькі падлеткаў таемна падкраўшыся да сінагогі ў час набажэнства, упускалі ў расчыненыя вокны загаддзя налоўленых вераб’ёў, чым выклікалі вялікую разгубленасць у прысутных. Добра, што шкоднікаў заўважылі і прагналі, бо невядома чым бы ўсё гэта скончылася.

Не моцна адставалі ад падлеткаў і маладыя беларускія хлопцы.

Падчас аднаго з шматлікіх кірмашоў, якія праходзілі ў Азярніцы, таксама адбыўся няёмкі выпадак.

Гэта быў той вясновы дождж,





які з’яўляецца ніадкуль, з маленькай аблачынкі, шчыльнай сцяною вады, быццам з вядра, здольны за хвіліну вымачыць да ніткі. Раптоўна пачаўшыся, ён гэтак жа хутка і скончваецца, пакідаючы пасля сябе свежае паветра і мокрых небаракаў, якія не паспелі дзе-небудзь схавацца.

Горш за ўсё было гандлярам. Не думаючы пра сябе, яны ратавалі тавар, накрываючы яго радзюжкамі і фартухамі. І зараз, пасля дажджу, мокрыя да ніткі, гатаваліся працягваць свой гандаль. Кірмаш апусцеў. Лівень прагнаў амаль усіх пакупнікоў. І тут з’явіўся ён. Высокі статны малады габрэйчык. Ён ішоў адзін, пасярэдзіне праходу паміж гандлёвых радоў, у чорным касцюме і капялюшы з шырокіх полаў якога яшчэ капала навальнічная вада. Высока задраўшы нос і заклаўшы рукі за спіну, прыгажун, час ад часу, кідаў ганарлівыя позіркі на прылаўкі і на сваё гора не заўважаў, што за ім ужо сочаць мясцовыя хлапчукі.

Габрэй быў не з тутэйшых, хутчэй за ўсё прыехаў на кірмаш з горада, і ўсім сваім выглядам дэманстраваў важнасць уласнай асобы. Адзін з маладых хлопцаў, што стаялі недалёка, не вытрымаў фанабэрыстасці заезджага франта і хутка падскочыў да прыгажуна. Карыстаючыся збянтэжанасцю габрэя, штукар сарваў з яго капялюш і, прыставіўшы да сябе ззаду, гучна сапсаваў паветра. Не даючы апамятацца, хлопец з усёй сілы нацягнуў капялюш яго ўласніку на галаву, аж на самыя вочы, ды так моцна, што той яшчэ доўга намагаўся яго зняць.

Зразумела, сцягнуўшы капялюш з вачэй, габрэйчык ужо не убачыў свайго крыўдзіцеля. Затое убачыў як усе гандляры, трымаючыся за жываты, з рогатам качаюцца па вазах і лавах.

Кажуць, больш гэты габрэй у Азярніцу не прыязджаў.

Мясцовае беларускае насельніцтва заўважала, што моладзь і дзеці моцна надакучаюць габрэям. Дарослыя ўсялякімі спосабамі змагаліся з дрэннымі паводзінамі падлеткаў. Дзеля таго, каб дзетвара пабойвалася і не дакучала габрэйскаму насельніцтву, старэйшыя распавядалі шкоднікам жудасную небыліцу. Быццам перад сваёй пасхай усе габрэі цікуюць за беларускімі дзецьмі і калі заўважаць адзінокага хлапчука, намагаюцца завабіць яго да сябе. Потым сілаю

садзяць у загадзя прыгатаваную бочку з набітымі ў яе цвікамі і пускаюць з стромкай гары. Усё быццам бы дзеля таго, каб здабыць чалавечай крыві, якую абавязкова трэба дадаць у святочную мацу. Зразумела, гэта ўсё выдумкі, але на дзяцей гісторыя аказвала вялікае ўражанне, многія з іх прыпынялі займацца шкодай.

У адрозненне ад дзяцей і падлеткаў, дарослае хрысціянскае насельніцтва мястэчка добра ладзіла з габрэямі і з задавальненнем наймалася да іх на працу. Жанчыны па суботах прыглядалі за хатняй гаспадаркай, а мужчыны запрагалі коней і ездзілі ў горад па тавары для крамаў. Прычым уласнікі крамаў ехалі ў Слонім "паравозам" і там ужо чакалі мужыкоў з вазамі. Набыўшы патрэбнае, габрэі таксама чыгункай вярталіся да Азярніцы і там строга па шалях прымалі ўласны тавар. Калі ўсё было дакладна, то прыстойна плацілі за працу. Але адносіны паміж хрысціянскім і іўдзейскім насельніцтвам мястэчка не абмяжоўваліся наёмнай працай, яны густа пранізвалі агульны быт асобных супольніцтваў.

Вядомы выпадак, калі заможны мясцовы габрэй выратаваў бедную сялянскую сям'ю ад галоднай смерці.

Пасля Першай сусветнай вайны шмат бежанцаў, выгнаных імперскім урадам у глыб Расіі, вярталася на родныя беларускія землі. У сваю чаргу з фронту ў свае гарады і вёскі пачалі прыходзіць раней рэкрутаваныя ў рускую армію салдаты.

Максім быў не з кволых. Служба на вайсковым караблі рускага балтыйскага флоту з любога мужчыны здольная зрабіць сапраўднага марскога воўка. Жахі і выпрабаванні вайны, халоднае паўночнае мора, якое здаецца павінен




*Крама ў Азярніцы. Здымак міжваеннага часу*

быў зненавідзець, але чамусьці наадварот, да болю палюбіў, і зараз, па дарозе дамоў, моцна па ім сумаваў. Але яшчэ больш Максім сумаваў па сваёй сям'і, якую пакінуў хутка пасля пачатку вайны. Якім жа было яго расчараванне, калі ў родным мястэчку ён не знайшоў ні жонкі, ні дзяцей і нават сваёй хаты. Ад уласнага падворку застаўся толькі стары свіран. Хата згарэла. Максім ведаў, чыя гэта справа. Так рабілі рускія казакі, калі жыхары будынку адмаўляліся эвакуіравацца. Відаць, жонка таксама была супраць і да апошняга не выходзіла з хаты. Падпал будынка быў самым эфектыўным сродкам. Сяляне ледзь паспявалі выскокваць з полымя, выносячы дзяцей і самае каштоўнае. Пасля гэтага проста былі вымушаныя падацца ў бежанства.

Максім стаяў на вуглях старога пажарышча і ад горычы моцна, да болю, сціскаў у далоні

шапку. Улада, за якую ён змагаўся на фронце, тут, у тыле, спаліла яго ўласную хату. Але сапраўдны жах, які нельга параўнаць ні з адным выпрабаваннем вайны, Максіму давялося перажыць крыху пазней. Знаёмыя, вярнуўшыся з бежанства, прынеслі страшную навіну. Там, далёка ў глыбіні Расіі, ад голаду і хваробаў загінула ўся яго сям'я. Даведаўшыся аб гэтым, Максім моцна заплюшчыў вочы. Так моцна, каб праз іх не прасачылася ніводная кропля, і адвярнуўшыся, моўчкі пайшоў да свайго амбара. Ніхто не бачыў, як плакаў марскі воўк…

Мар'яна была бойкая жанчына, але ад успамінаў аб тым, што яна пабачыла і перажыла падчас вяртання з бежанства, нават у яе, час ад часу, пад хусткай пачыналі варушыцца валасы. Паўсюдны голад і хваробы, але самымі жудаснымі былі злачынцы-рабаўнікі. Страшна было за сябе, за сястру, але найбольш за сваё немаўля, якое, закутанае ў хустку, зараз ціхенька спала на руках. Дагэтуль перад вычыма стаяла ўчарашняя жудасная карціна. Пераходзячы праз лес, Мар'яна з сястрой нечакана натыкнуліся на забітых людзей. Шэсць чалавек, мужчыны і жанчыны, ляжалі абапал дарогі. Мар'яна пазнала іх. Гэтыя няшчасныя дзень таму ехалі на возе і абагналі яе з сястрою недалёка ад старога млына. Рабаўнікі забралі ўсё. Пакінулі толькі споднюю бялізну. Злачынцы звычайна нападалі на тых, хто ехаў канём, на возе, а з хадакоў звычайна не было чаго ўзяць. У Мар'яны ад гэтых успамінаў па целе пайшлі дрыжыкі, суцяшала толькі думка пра тое, што большую палову шляху дамоў яны з сястрою ўжо пакінулі за плячыма, а роднае мястэчка з кожным крокам станавілася ўсё



*Максім і Мар'яна з сынамі*

бліжэй і бліжэй…

Яны спаткаліся ў Азярніцы, у нядзелю, пасля набажэнства. Мар'яна першая падышла да Максіма, які панура крочыў з царквы. Павіталася, пазнаёмілася і, трымаючы на руках дзіця, наўпрост прапанавала сысціся і, аб'яднаўшы намаганні, разам збудаваць новую сям'ю. Максім згадзіўся. Ім было не выжыць адзін без аднаго. Не было ніякіх рамантычных спатканняў, заляцанняў, ды і нават кахання не было. Была толькі глыбокая павага і пашана.

Максім і Мар'яна пачалі жыць разам у маленькай старой закінутай хатцы. Яна стаяла на хутары недалёка ад мястэчка і не патрабавала сур'ёзнага рамонту. Набліжалася зіма, і калі дровамі можна было разжыцца, то з запасамі ежы паўставала вялікая праблема. Да таго ж, у Мар'яны знікла малако, без якога дзіцяці было не выжыць.

Максім быў у роспачы і, не ведаючы што рабіць, з апошняй надзеяй пайшоў у мястэчка наймацца на працу да самага заможнага габрэя ў Азярніцы.

У габрэя працы не было. Позняя восень — гэта час, калі ўвесь ураджай сабраны і ўсе справы ўжо зробленыя. Але, выслухаўшы Максіма, мудры гаспадар прапанаваў яму дамову.

Габрэй паабяцаў даць беднай сям'і на ўсю зіму адну з сваіх цяжарных кароў і пасля ацёлу пакінуць цялятка сялянам. Максім не верыў сваёй удачы. Адыходзячы з каровай з падворка габрэя, ён напаследак спытаў: *"Прабач шаноўны, але якую ты будзеш мець з гэтай дамовы выгаду?"*. Сталы габрэй пасміхнуўся і сказаў: *"Як жа якую? Ты будзеш карміць і даглядаць маю карову цэлую зіму"*. І сапраўды, падумаў сам сабе Максім, у яго старым свіраны яшчэ засталася нейкая колькасць сена.

Такім чынам, дзякуючы мудраму ўчынку старога заможнага габрэя, была выратаваная бедная сялянская сям'я.

Але не толькі іудзеі дапамагалі мясцоваму хрысціянскаму насельніцтву. Таксама былі выпадкі, калі, наадварот, дзякуючы падтрымцы сялян азярніцкія габрэі пачыналі займацца прадпрымальніцтвам

на ўзаемавыгадных ўмовах.

Пасля руска-японскай вайны вярнуўся ў роднае мястэчка камісаваны салдат. Ен меў вялікую колькасць баявых узнагарод, дзякуючы якім атрымліваў нядрэнную дзяржаўную пенсію. Аднойчы ўвечары зайшоў падвыпіўшы салдат у краму і пачаў габрэю-гаспадару сваімі подзвіга-мі хваліцца. Убачыўшы, што гандляр з вялікай зацікаўленасцю, уважліва яго слухае, моцна захапіўся і пералічыў кожны свой ордэн, кожны медаль. Пасля чаго набыў патрэбныя тавары і, хістаючыся, пайшоў дадому адпачываць.

На наступны дзень ранкам салдат прачнуўся ад таго, што хтосьці ціха стукаў у дзверы. Апрануўшыся, ён непрыкметна зірнуў у акно і здзівіўся. На падворку стаяла цэлая дэлегацыя. Чатыры важных, афіцыйна апранутых габрэя цярпліва чакалі ля ганку гаспадара. Салдат паспяшаўся адчыніць дзверы і, павітаўшыся з гасцямі, прапанаваў усім увайсці ў хату. Ён жыў адзін, і ў памяшканні было сціпла і чыста, як у казарме.

Пасля таго, як усе селі за стол, размову пачаў самы старэйшы з габрэяў. Яго цікавіла, ці сапраўды салдат мае тыя ўзнагароды, пра якія распавядаў учора ўвечары ў краме. Пачуўшы станоўчы адказ, габрэі пераглянуліся, пасля чаго размову працягнуў ужо іншы. Ён распавёў аб тым, што яго сям’я валодае ў мястэчку двума крамамі і з задавальненнем адчыніла б яшчэ і карчму, калі б не вельмі высокія падаткі. Чорная кучаравая барада прамоўцы пацешна traслася ад кожнага яго слова, што выклікала на твары салдата лёгкую ўсмешку. Габрэі ізноў насцярожана пераглянуліся. Тут у размову ўключыўся трэці госць. Паправіўшы акуляры, ён запытаўся: ці ведае шаноўны гаспадар, што згодна закону ўладальнік такой колькасці ўзнагародаў, як у яго, мае права на прывілей ільготнага падаткаабкладання? Зразумела, салдат ніколі пра гэта не чуў. Ён нахмурыўся і напхаў у люльку тытуню, закурыў і адмоўна памахаў галавою.

Нарэшце загаварыў апошні, чацвёрты габрэй. Самы малады госць прапанаваў гаспадару супрацоўніцтва. Заможная габрэйская сям’я мела намер адчыніць у мястэчцы карчму ад імя салдата, каб мець ільготнае падаткаабкладанне. Гаспадар павольна ўстаў з-за стала, падышоў да акна і, дастаўшы з рота люльку, пацікавіўся аб уласнай карысці ад зробленай яму прапановы. Габрэі таксама паўставалі з-за стала. Яны паабяцалі салдату, што той будзе мець права адзін раз у дзень на працягу ўсяго свайго жыцця прыходзіць да карчмы, есці і піць столькі, сколькі толькі зможа. Хітрая ўсмешка з’явілася пад вусамі гаспадара. Павярнуўшыся да гасцей, ён працягнуў самаму сталаму з іх сваю руку і вымавіў: *“Згода”*.

Неўзабаве ў Азярніцы



з’явілася новая карчма. Як і чакалася, самым частым яе наведвальнікам стаў камісаваны салдат. Кожны дзень ён прыходзіў у карчму і замаўляў ежу, выпіўку, але абавязкова браў з сабою двух-трох сябрукоў. Габрэі, канешне, злаваліся, але ніколі не адмаўлялі салдату ў абслугоўванні.

Жыццё ў мястэчку Азярніца было дзіўным і шматгранным, як і ва ўсёй Заходняй Беларусі. Чатыры этнасы, чатыры мовы, тры рэлігіі, быццам бы ў агульным катле, стагоддзямі варыліся разам, фарміруючы вельмі асаблівы мясцовы менталітэт. Наперадзе, у недалёкай будучыні, іх чакае чорная скрываўленая пашча Другой сусветнай вайны. А пакуль у Азярніцы на самым краі мястэчка, бліз мастка праз невялікі раўчук, акурат там, дзе скончваецца брукоўка, у маленькай старэнькай хатцы сталага габрэя Маісея Абрамавіча, лежачы на канапе і пасміхаючыся, засынала яго юная дачка Сара. Ёй снілася не гарачая палестынская пустыня, не шумны Іерусалім і нават не цёплыя, ласкавыя воды Міжземнага мора, а снілася ёй, як на халодным світанку ганарлівы алень выходзіць на край лесу, каб паглядзець, як на гарызонце, сарамліва хаваючыся за аблокамі, грэшная зямля зліваецца ў пылкім пацалунку з святымі нябёсамі. Ёй снілася Радзіма.

●Міхаіл Шуляк

*Аўтарам выкарыстаны ўспаміны сталых жыхароў Азярніцы: Міхаіла Максімавіча Шуляка, Веры Васільеўны Клімовіч, Антона Міхайлавіча Жыліча. Фотаздымкі з архіву аўтара, Рамана Вішняка 1930-х гадоў, а таксама малюнкі нямецкіх вайскоўцаў часоў Першай сусветнай вайны.*

# Гісторык Аляксандра Бергман

У 1990-х гадах, у пошуках слядоў пра дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Максіма Бурсевіча, я пазнаёміўся з беларуска-польскім гісторыкам з Варшавы Аляксандрай Рыгораўнай Бергман. Бурсевіч — наш зямляк, якога 9 кастрычніка 1937 года "тройка" УНКУС асудзіла да вышэйшай меры пакарання. А гісторык Бергман усё сваё жыццё даследавала дзейнасць дзеячаў КПЗБ і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, у тым ліку Максіма Бурсевіча, Браніслава Тарашкевіча, Антона Луцкевіча, Ігната Дварчаніна, Веры Харужай, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Паўла Валошына, Леапольда Родзевіча і іншых асобаў. Таму я звярнуўся да Аляксандры Рыгораўны с просьбай дапамагчы мне ў пошуках звестах пра майго земляка Бурсевіча.

Яна не любіла пісаць вялікіх пісем, як, напрыклад, Зоська Верас ці Ларыса Геніюш. Аляксандра Рыгораўна пісала мала, але канкрэтна і ясна. Ды й аўтографы на яе кнігах складаліся з некалькіх слоў. На кнізе "Ігнат Дварчанін — беларускі палітык і вучоны", якую напісалі сумесна Аляксандр Баршчэўскі, Ежы Тамашэўскі і Аляксандра Бергман, і якую яна мне даслала з Варшавы, гісторык падпісала проста: *"Сяргею Чыгрыну — А. Бергман. Warszawa, 24.09.1992"*. А яе асабістую кнігу на польскай мове "Справы беларускія ў II Рэчы Паспалітай" (Варшава, 1984) мне ў 1992 годзе падаравала гродзенская паэтка Данута Бічэль. *"Я табе, Сяргей, хачу падараваць адну добрую кнігу. У цябе такой няма. Ды і гэта твая тэма…"*, — сказала Данута Янаўна і ўручыла мне кнігу Аляксандры Бергман.



*Аляксандра Бергман (справа) з Янінай Юзэфовіч — роднай сястрой Леапольда Родзевіча, 1977 год*

А цяпер некалькі біяграфічных звестак пра Аляксандру Бергман (дзявочае прозвішча Кучкоўская). Нарадзілася яна 1 траўня 1906 года ў Гродне ў сям'і мяшчан. Вучылася ў Гродзенскай прыватнай гімназіі Вальдмана, дзе далучылася да камуністычнага руху. У 1923-м пачала працу ў кравецкай майстэрні. У 1924 годзе была абрана ў Гродзенскі акружны камітэт камуністычнага саюзу моладзі. Але за тое, што не здолела справіцца з раскольніцкімі плынямі "Сэцэсіі" у мясцовай камсамольскай арганізацыі, была знята з пасады сакратара загадам ЦК КСМ Заходняй Беларусі. У 1925 годзе, як інструктар камсамола Заходняй Беларусі, выязджала з Гродна ў Вільню, затым у Брэст, Баранавічы.

У 1927 годзе будучы гісторык вучылася ў партшколе КПЗБ у Мінску. У 1928 годзе была ўдзельніцай першага з'езда КПЗБ. У 1929-1931 гадах у Маскве працавала на электразаводзе і вучылася ў Міжнароднай "ленінскай" школе, потым у партшколе КПЗБ у Мінску.

У канцы 1935 года Аляксандра Бергман была рэпрэсіравана савецкімі ўладамі. Знаходзілася ў канцлагерах у Кіраве, Комі АССР, Кемераўскай вобласці. Беларуска-польскі гісторык Алена Глагоўская на гэты конт выказвае сваю думку: "Яўрэям у мінулым стагоддзі прыйшлося перажыць халакост — амаль татальнае знішчэнне нацыі. Аляксандры і Стэфану Бергманам ды іхняй дачушцы Зосі шчаслівы, можна сказаць, лёс падараваў жыццё, хаця не ў райскім шчасці, толькі ў разлуцы. Калі сёння чытаю пра кашмар лагернага жыцця сталінскіх часоў і генацыд яўрэяў падчас Другой сусветнай вайны, міжволі думаю: дзе тады лепш было быць яўрэю? Аляксандра Бергман у той час была ў сібірскіх лагерах. Так, яўрэйка ды камуністка была арыштавана ў Гомелі ў снежні 1935 года. Раней, напярэдадні ўгодкаў кастрычніцкай рэвалюцыі, быў арыштаваны яе муж — Стэфан, таксама камуніст. Ніхто на зважаў на тое, што ў іх было маленькае дзіця — Зося, якой у ліпені гэтага ж года споўніўся ўсяго годзік жыцця. З

## Гісторык Аляксандра Бергман

*Працяг, пачатак на ст. 17*

верай у камуністычныя ідэалы абое трапілі ў „рай”. Іхнія біяграфіі — доказ таго, што і яўрэі камуністычных поглядаў не пазбеглі сталінскіх лагераў”.

Гэта так. Вызвалілі Аляксандру Бергман у 1943 годзе, а ў 1945-м яна выехала ў Польшчу. У 1945-1948 гадах мужная жанчына працавала на паліграфічным камбінаце ў Лодзі, а потым пераехала ў Варшаву. Там пэўны час працавала рэферэнткай, потым — кіраўніком аддзелу просьбаў, прашэнняў, памілаванняў і датэрміновых вызваленняў у выканаўчым бюро Спецыяльнай камісіі змагання са злоўжываннямі, і завочна закончыла Партыйную школу пры ЦК ПАРП.

У 1956-1957 гадах была супрацоўніцай рэдакцыі часопісу “Życie partyi”. А калі пайшла на пенсію, то пачала самастойна займацца навукова-даследчыцкай дзейнасцю.

Пражыла Аляксандра Рыгораўна Бергман амаль сто гадоў, яна памерла ў 2005 годзе, пакінуўшы нам у спадчыну звыш 40 артыкулаў і дзве фундаментальныя манаграфіі — пра беларускія справы Рэчы Паспалітай і пра Браніслава Тарашкевіча. Усё, што ёй было напісана пра Беларусь і яе славутых сыноў, даўно просіцца пад адну вокладку самастойнага выдання. Прапаную чытачам “Слонімскага краю” артыкул-успамін Аляксандры Бергман пра нашага земляка Аляксандра Багданчука. Матэрыял быў апублікаваны 22 лютага 1977 года ў беларускім тыднёвіку “Ніва” (Беласток).

●Сяргей Чыгрын

Замест кветак на свежую магілу АЛЯКСАНДРА БАГДАНЧУКА

У пісьме атрымала я вестку, што ў Мінску памёр Аляксандр Багданчук. Паходзіў ён з вёскі Чамяры каля Слоніма, якая ў санацыйных судовых актах звалася „камуністычнай Меккай". Назву гэтую займела не беспадстаўна, бо Чамяры былі невычэрпнай крыніцай рэвалюцыйнага актыву. Бліжэйшыя і далейшыя родзічы заглядваліся на Аляксандра, які быў натхняльным духам тамашняй моладзі. І не толькі моладзі са свайго сяла, але і з усяго наваколля. Аўтарытэт яго займаў і большы абсяг — ён карыстаўся пашанай і ў людзей таго пакалення, якое ўжо нельга было залічыць да моладзі.

Санацыйныя карэспандэнты і гісторыкі пісалі, быццам у Заходняй Беларусі кіпела толькі таму, што дзейнічалі ў ёй прысланыя камісары. Але ніводзін „камісар", ніводзін прыеджы нічога не зрабіў бы, калі б не змог абаперціся на такіх мясцовых...



...масвікоў.

„Грамада" абавязана Багданчуку значна болей, чым тыя некалькі дзесяткаў гурткоў, якія ён меў на сваім рахунку. Абавязана яму тое, што ён уздзейнічаў на Максіма Бурсевіча, так-

(Працяг на стар. 5)

## Замест кветак на свежую магілу Аляксандра Багданчука

У пісьме атрымала я вестку, што ў Мінску памёр Аляксандр Банданчук. Паходзіў ён з вёскі Чамяры каля Слоніма, якая ў санацыйных судовых актах звалася “камуністычнай Меккай”. Назву гэтую займела не беспадстаўна, бо Чамяры былі невычэрпнай крыніцай рэвалюцыйнага актыву. Бліжэйшыя і далейшыя родзічы заглядваліся на Аляксандра, які быў натхняльным духам тамашняй моладзі. І не толькі моладзі са свайго сяла, але і з усяго наваколля. Аўтарытэт яго займаў і большы абсяг – ён карыстаўся пашанай і ў людзей таго пакалення, якое ўжо нельга было залічыць да моладзі.

Санацыйныя карэспандэнты і гісторыкі пісалі, быццам у Заходняй Беларусі кіпела толькі таму, што дзейнічалі ў ёй прысланыя камісары. Але ніводзін “камісар”, ніводзін прыеджы нічога не зрабіў бы, калі б не змог абаперціся на такіх мясцовых дзеячаў, такіх “масавікоў”, якім быў Аляксандр Багданчук.

У маёй памяці застаўся такім, якім я яго пазнала ў 1926 годзе, калі ўпершыню выплыў ён на шырэйшыя воды і стаў актыўным членам акруговага выканаўчага камітэта Баранавіцкага акруговага камітэта Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі з сядзібай у Слоніме (гэтую “сядзібу” нельга разумець даслоўна, таму што больш часу наш невялікі актыў праводзіў у ваколіцах Слоніма, Ружан, Косава, Івацэвічаў (Яглевічы), Навагрудка, Карэлічаў, Міра, Баранавіч і г. д.). І не было такога выпадку, каб на новае спатканне Аляксандр не прывозіў мех навін, заўсёды цікавых, заўсёды пацвярджаючых нястомную энергію яго і ягоных выхаванкаў, заснаванне новых гурткоў Грамады і іншыя заваёвы.

Грамада абавязана Багданчуку значна болей, чым тыя некалькі дзесяткаў гурткоў, якія ён меў на сваім рахунку. Абавязана яму [за] тое, што ён уздзейнічаў на Максіма Бурсевіча, таксама жыхара вёскі Чамяры і былога правадыра баптыстаў, каб ён пачаў дзейнічаць у Грамадзе.

І, калі Максім Бурсевіч стаў генеральным сакратаром Цэнтральнага сакратарыята Беларускай сялянска-рабочай Грамады, дык у гэтым вялікая заслуга Багданчука.

О! У Аляксандра Багданчука была багатая старонка рэвалюцыйнай дзейнасці. У 1928 годзе ён стаў сакратаром Баранавіцкага акруговага камітэта КПЗБ, у 1935 годзе — сакратаром Навагрудскага акруговага камітэта КПЗБ, меў некалькі судовых прыгавораў, сем год цяжкай турмы, у тым ліку шмат часу ў адзіночнай камеры № 38 у Гродзенскай турме, а там — нямала дзён і начэй у яе славутых карцэрах. Багданчук прымаў актыўны ўдзел у паўстанні нарачанскіх сялян-рыбакоў і толькі пасля ўзброенай сутычкі з паліцыяй, ён, ранены, з куляй у плячах, давалокся ў 1935 годзе да савецкай граніцы. Аляксандр Багданчук (тады — Стах) стаў для Максіма Танка прататыпам Грышкі — героя ў яго паэме "Нарач".

На доўгі час я страціла з вачэй Багданчука. Знайшла яго пасля вайны ў далёкім Томску. Як "сталы наведвальнік" гродзенскай турмы, на працягу некалькі год, калі там знаходзіўся Браніслаў Тарашкевіч, быў Багданчук адным з маіх інфарматараў пра гэты перыяд жыцця Тарашкевіча. З гэтых пісем я даведалася, што Багданчук прымаў удзел у вайне, быў ранены, заснаваў сям'ю і страціў двое дарослых дзяцей, закончыў тэхнікум і, акружаны пашанай, у далёкім Томску будуе новыя дамы. Але, відаць, успаміны маладых і бурліва праведзеных гадоў, прымусілі яго вярнуцца ў родны край. Ці спазнаў ён тут так званае суцяшэнне? Людзей, якія яго ведалі з ранейшых часоў, засталося нямнога. Кожны быў заняты сваім жыццём. А ў новым асяроддзі гэты старэйшы чалавек


*Аляксандр Багданчук*

— змучаны жыццём, знясілены і цалкам лысы, нервовы — не выклікаў ні ў каго рэфлексій, што мае дачыненне з сапраўдным героям.

У маёй памяці Аляксандр Багданчук застаўся такім, якім яго ўвекавечыў слонімскі фатограф на здымку ў маладыя гады. Іменна ў тыя гады сваю энергію, сваю сілу волі, сваю стойкасць пераліў ён у жыццё, пакідаючы ў ім трывалы след. Невыпадкова застаўся яго вобраз у беларускай літаратуры. Вобраз гэты ўжо не мае нічога супольнага з постаццю беларуса з *"Железной дороги"* М. А. Някрасава.

І, шчыра кажучы, многа подзвігаў Аляксандра Багданчука дастойна таго, каб іх жыўцом перанесці ў літаратуру. Вось хоць бы той, як ён разам з Ігнатам Дварчанінам і Антонам Мальцам вывелі ў поле высокіх чыноўнікаў Навагрудскага ваяводства. Ды што там, аднаго ваяводства! Сарвалі путы, накладзеныя на ўсю Заходнюю Беларусь у выбарчай кампаніі ў сейм у 1928 годзе. Сталі яны ўпапярок дарогі Пілсудскаму, які загадаў, каб на гэты раз не дапусціць у сейм ніводнага левіцовага беларускага пасла. Гэтую ролю Пілсудскага здзяйсняла цэлая армія чыноўнікаў і ўстаноў ва ўсіх паўночна-усходніх ваяводствах. Яны ўздумалі, каб не дапусціць да прадстаўлення левіцовых выбарчых спіскаў, затрымаць у арышце тых, хто склаў гэтыя спіскі. Але тры мужыкі перахітрылі іх усіх. Планы "валадароў свету" рухнулі, і беларускі левіцовы клуб "Змаганне" усё ж паўстаў у 1928 годзе і дзейнічаў два з паловай гады. Ды што там многа казаць. Багданчук быў тым, хто кропля за кропляй і вялікімі порцыямі сардэчную сваю кроў і натужную працу свайго мозгу і волі аддаў дзеля таго, каб людзям жылося лягчэй і каб было гэта наша жыццё прыгажэйшым. Такім і застаўся ён у маёй памяці.

●Аляксандра Бергман,
1977 г.

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Невядомае фота 1930-х гадоў



Гэты фотаздымак мне прывёз і падараваў сябра з Ваўкавыску. Ён выкупіў яго на адным з аўкцыёнаў. Прывёз і сказаў, што стары здымак быў зроблены ў Слоніме ў 1930-х гадах і шмат часу знаходзіўся ў прыватным архіве слонімскага пісьменніка Алега Лойкі (1931 — 2008).

Адразу падумаў, што на гэтым здымку ёсць маленькі хлопчык Алег Лойка, калі ж Алег Антонавіч зберагаў фота ў сваім хатнім архіве. Тым больш, што здымак насамрэч быў зроблены ў Слоніме мясцовым фатографам Барысам Вайнштэйнам. Ёсць штамп з адваротнага боку.

Каб разгадаць гэтую таямніцу і знайсці на здымку Алега Лойку, завітаў да сястры пісьменніка Людмілы Антонаўны Клімовіч, якая жыве ў Слоніме на Зялёнай вуліцы. Людміла Антонаўна ўзяла ў рукі фотаздымак, павялічальную лупу і доўга разглядала кожнага хлопчыка, дзяўчынку, настаўнікаў, а потым сказала, што яе маленькага брата тут няма. І, наогул, яна на старым фота нікога не пазнала. І пра месца, дзе здымак у Слоніме быў зроблены, таксама нічога канкрэтнага не сказала.

Тым не менш, стары слонімскі здымак мы сёння публікуем. А раптам нехта пазнае на ім сваіх дзядуляў і бабуляў, і потым раскажа нашым чытачам на старонках “СК”.

●Сяргей Чыгрын

Усе нумары “Слонімскага краю”, якія выйшлі на працягу 2016-2018 гадоў, можна знайсці на сайце інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат” : http://kamunikat.org/

“Слонімскі край” — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на “СК” пры передруку абавязковая.